ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б






ВОСЕМНАЦЦАТЫ МЮД

ЖНІВЕНЬ

№ 4

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1932

Літпраўка *М. Нікалаевіч*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Карэктар *В. Сакалоўская* і *Ю. Жыдовіч*
Здана ў друкарню 9/VIII—32 г.
Падпісана да друку 16/VIII—32 г.

# З Ь М Е С Т



Заказ № 2024. 5.000 экз. (2 арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 851.

Друкарня імя Сталіна.




## Кароткая гісторыя Міжнароднага юнацкага дня

ДЛЯ ЗАЎВАГ

У разгар імпэрыялістычнай вайны, у красавіку 1915 г., у швэйцарскім горадзе Бэрнэ адбылася міжнародная конфэрэнцыя социялістычнай моладзі, прысьвечаная пытаньням барацьбы з вайной. У гэтай конфэрэнцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі нэйтральных краін—Швэцыі, Норвэгіі, Даніі, Швэйцарыі, Галяндыі, прадстаўнікі тады яшчэ не ваяваўшых Італіі і Баўгарыі і ад ваюючых краін — дэлегаты Расіі, Польшчы і Германіі.

Перад склікам гэтай конфэрэнцыі была вострая барацьба ў радах социялістычных саюзаў моладзі Германіі, Аўстрыі, Францыі

ды інш. краін. Сьледуючы эдрадніцкай політыцы соцыял-дэмократычных партый, стаўшых на позыцыі «абароны сваёй бацькаўшчыны», соцыялістычныя саюзы моладзі большасьці ваюючых дзяржаў адмовіліся прыняць удзел у Бернскай конфэрэнцыі.

У момант, калі мільёны рабочых і сялян гіблі ад куль, знарадаў і ўдушлівых газаў, у момант, калі ў агні пажарышчаў сьціраліся з зямлі цэлыя гарады і сёлы,—соцыял-дэмократычныя партыі Эўропы і ідучыя за імі юнацкія саюзы адмовіліся ад барацьбы за спыненьне вайны. Больш таго, яны дапамагалі буржуазіі весьці грабежніцкую вайну, упэўняючы масы, што вайна «іх»—Францыі, Германіі і т. д.—гэта справядлівая вайна, вайна для «абароны бацькаўшчыны». Толькі бальшавікі, кіруемыя Леніным, з самага пачатку вайны выступілі з чоткімі лёзунгамі барацьбы супроць вайны,ператварэньня імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую, паражэньня сваёй бур-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

жуазнай бацькаўшчыны і т. д. З першых-жа дзён вайны наша партыя разгарнула работу ў арміі, на прадпрыемствах, выхоўваючы масы ў духу барацьбы за зьвяржэньне гнёту імпэрыялізму і царызму, за рэволюцыйны выхад з вайны. Зразумела, што наша партыя паслала сваіх дэлегатаў на гэтую конфэрэнцыю рэволюцыйнай моладзі Германіі, на чале якой стаяў Карл Лібкнэхт.

Бэрнская конфэрэнцыя парашыла організаваць міжнародны антымілітарысцкі юнацкі дзень—МЮД. Конфэрэнцыя ў сваіх рашэньнях запісала:

> «Прыняць усе неабходныя меры да таго, каб адначасова ў розных краінах юнацкімі соцыялістычнымі організацыямі, калі магчыма,—пры ўдзеле соцыялістычных партый і профсаюзаў, наладжваўся міжнародны антымілітарысцкі юнацкі дзень».

Насуперакі рашучаму процідзеяньню лідэраў соцыял-дэмо-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

кратычных партый, насуперакі цяжкім поліцэйскім умовам, першы міжнародны юнацкі дзень, які адбыўся ў 1915 г., быў праведзен пад лёзунгамі мобілізацыі працоўнай моладзі супроць вайны. У Германіі, Даніі, Норвэгіі, Швэцыі, Амэрыцы і інш. краінах адбываліся антымілітарысцкія дэмонстрацыі. Гэта было першае міжнароднае масавае выступленьне з моманту абвяшчэньня вайны.

Трэба аднак адзначыць, што Бэрнская конфэрэнцыя, заклікаўшы працоўную моладзь да протэсту супроць вайны, не дала дакладнага адказу на пытаньне аб тым, як змагацца з вайной. Бальшавікі, якія былі на конфэрэнцыі, не сабралі большасьці галасоў па сваіх прапановах і конфэрэнцыя прыняла палавінчатую рэзолюцыю, якая даручала юнацкім організацыям «працаваць у сваіх краінах для дасягненьня таго, каб патрабаваньні поўнага раззбраеньня былі ўключаны ў програмы ў якасьці паасобнага пункту». Конфэрэнцыя яшчэ да-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

кладна не разумела пытаньня аб зьвяржэньні капіталізму, не дала лёзунгу пературарэньня імпэрыялістычнай вайны у грамадзянскую. Але з ходам вайны пацыфісцкая (г. зн. установка на барацьбу за мір, а не за пературарэньне імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую) установка міжнароднай арганізацыі соцыялістычнай моладзі пад уплывам бальшавікоў усё больш і больш перамагалася. У 1917 г., калі пад непасрэдным кіраўніцтвам бальшавікоў працоўная моладзь Расіі першы раз вышла на мюдаўскую дэмонстрацыю, на сьцягах моладзі ўсіх краін быў дастаткова выразны лёзунг:

«Мір можа быць дасягнут, як даказала расійская рэволюцыя, толькі ў процэсе жорсткай барацьбы супроць усякага буржуазнага ўраду. Толькі пролетарская рэволюцыя можа прынесьці мір народам».

У наступныя гады, пад кіраўніцтвам Комінтэрну і КІМ'у,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

МЮД стаў днём агляду і баявой тагоўнасьці працоўных, днём барацьбы з мілітарызмам, днём абароны першай у сьвеце пролетарскай дзяржавы—СССР, днём мобілізацыі найшырэйшых мас рабочай і ўсёй працоўнай моладзі да барацьбы за пролетарскую дыктатуру.

Першы конгрэс КІМ'у, які прыняў пастанову аб МЮД'е, параіцыў праводзіць яго штогодна ў першую нядзелю верасьня пад кіраўніцтвам комсамолу.

## XVIII МЮД у краінах капіталу

4 верасьня г. г. у першую нядзелю верасьня, як пастанавіў Бэрлінскі конгрэс КІМ'у, рэволюцыйная пролетарская моладзь усяго сьвету, пад кіраўніцтвам комуністычных партый і комсамолу, у восемнаццаты раз выйдзе на вуліцу. На баявых сьцягах дэмонстрантаў будуць лёзунгі барацьбы за хлеб, за працу, лёзунгі солідарнасьці пролетараў усяго земнага шару, аб барацьбе з не-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

бясьпекай новай вайны, аб абароне Савецкага саюзу, будуць лёзунгі сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

На XVIII мюдаўскую дэмонстрацыю пролетарская моладзь выйдзе ў абстаноўцы гіганцкага экономічнага крызісу, які паразіў усе галіны народнай гаспадаркі капіталістычнага сьвету, які асудзіў на галечу і голад мільёны працоўнай моладзі краін капіталізму.

Нават буржуазныя экономісты, якія зусім ня схільны пераваліч- ваць глыбіню і вынікі сусьветнага крызісу, вымушаны прызнаць, што надышла катастрофа капіталізму, што становішча безнадзейнае. Так, апошні агляд германскага кон'юнктурнага інстытуту прыводзіць такія матэрыялы. Калі параўнаць выпуск прамысловай продукцыі ў чэрвені гэтага году з продукцыяй, выпушчанай капіталістычнымі краінамі ў перадкрызісны 1928 г.,—год найбольшага ўздыму,—то акажацца,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

што прамысловасьць выпусьціла вырабаў на 40 проц. менш.

Германія выпрацоўвае цяпер вырабаў толькі ў межах 53,8% у параўнаньні з 1928-29 г., Францыя—73,4 проц., Англія і яе калёніі—80,6 проц., ПАЗШ—53,2%

У цяперашні час сусьветная прамысловасьць вырабляе **на 10 проц. менш, чым у 1913 г.** Калі пры гэтым улічыць, што насельніцтва ўсяго сьвету павялічылася з 1913 г. па меншай меры на 12 проц., то акажацца, што на кожнага чалавека прамысловая продукцыя скарацілася на 20%, а спажываньне яшчэ больш скарацілася, бо шырокія слаі працоўных ня маюць сродкаў набываць тавары.

І толькі ў аднэй дзяржаве—СССР, дзе краінай кіруюць бальшавікі на чале з т. Сталіным, народная гаспадарка дае бязупынны ўздым. Паводле падлікаў таго-ж германскага кон'юнктурнага інстытуту, Савецкі саюз выпрацоўвае цяпер вырабаў у параўнаньні з 1928 г. у разьмеры



ДЛЯ ЗАЎВАГ

**206,1 проц., а ў параўнаньні з 1913 г.—яшчэ больш, у разьмеры 301,7 проц.**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

«У сувязі з далейшым разьвіцьцём крызісу,—пішуць германскія буржуазныя профэсары,—моцна зьмяніліся суадносіны паміж паасобнымі прамысловымі краінамі. СССР займае асаблівае становішча, бо яму ўдалося ва ўсіх важнейшых галінах цяжкой прамысловасьці значна павысіць долю ў сусьветнай продукцыі. У здабычы каменнага вугалю доля СССР павялічылася з 2.8 проц. у 1928 г. і 5,4 проц. у 1931 г. да 8,5 проц. у пачатку 1932 г. У выплаўцы чыгуну доля СССР павысілася з 3.8 проц. у 1928 г. і 8,7 проц. у 1931 г. да 16 проц. у пачатку 1932 г. У машынабудаўніцтве доля СССР павысілася з 4 проц. у 1928 г. да 21,4 проц. у 1931 г. У галіне выплаўкі чыгуну і машынабудаўніцтва СССР займае другое месца ў сьвеце пасьля ПАЗШ».

За зводкай сухіх лічбаў аб крызісе капіталізму скрываецца развал і пагібель тысяч і дзесяткаў тысяч заводаў, шахт, нафтавых шчылін, чыгуначных прадпрыемстваў, электрастанцый. Толькі гэтымі днямі закрыўся аўтомобільны завод Форда ў Дэтройце, таго самага «аўтомобільнага караля» Гэнры Форда, які яшчэ нядаўна, выступаючы ў ролі апостала капіталізму, прапаведваў, што для барацьбы з экономічным крызісам неабходна не скарачаць вытворчасьць, а павялічваць пакупніцкую здольнасьць насельніцтва. Час, аднак, паказаў, што і самому Форду прышлося ня толькі скарачаць, але і замыкаць на замок свае славутыя аўтомобільныя заводы. Вымушаны «паварот» містэра Форда як ня трэба лепш пацьвярджае словы т. Косарава, сказаныя ім на VII Усесаюзнай конфэрэнцыі ЎсеЛКСМ аб тым, што «хаос у экономіцы выклікае хаос у буржуазнай сьвядомасьці».

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Ва ўсім капіталістычным сьвеце закрываюцца домны—сэрца прамысловасьці. У Амэрыцы з 302 домен патушана 246, у Францыі з 211 домен патушана 121, у Германіі—з 155 домен працуе толькі 42. У Аўстрыі-ж патушана апошняя домна.

Закрыцьцё прадпрыемстваў стварыла вялізарныя арміі беспрацоўных, якія ня маюць ніякай надзеі знайсьці работу. Армія беспрацоўных расьце як за лік рабочых, так і за лік сялян, бо крызіс нанёс і наносіць усё новыя і новыя руйнуючыя ўдары сельскай гаспадарцы. Найшырэйшыя слаі сялянства, з прычыны падзеньня цэн на продукты, вялізарных падаткаў і ліхвярскіх процантаў па раней атрыманых крэдытах, зьбяднелі настолькі, што вымушаны кідаць на волю лёсу сваю разараную гаспадарку.

Так ва ўсіх краінах капіталу расьце дадаткова шматмільённая армія людзей, якія дарэмна б'юцца, шукаючы работы і хлеба. Гэтыя людзі, асуджаныя на



ДЛЯ ЗАЎВАГ

страшэнную нястачу, складаюць цяпер вялізарную лічбу—40—45 млн.

У шуканьнях капіталістычнага выхаду з крызісу буржуазія, усё павялічваючы падатковае абкладаньне працоўных, сыстэматычна зьніжае дапамогі беспрацоўным і афярам імпэрыялістычнай вайны—інвалідам і сем'ям загінуўшых. У радзе-ж капіталістычных дзяржаў, асабліва ў Амэрыцы, дамогі па беспрацоўі зусім не выдаюцца. У Польшчы дапамогі атрымлівае толькі невялікая частка беспрацоўных. У другой палавіне жніўня лодзінская газэта «Глос Поранны» паведаміла аб новых мерах па абмежаваньні колькасьці дапамог, што выдаюцца беспрацоўным. У Лодзенскім раёне гэтыя абмежаваньні праводзяцца з асаблівай жорсткасьцю. На працягу апошніх тыдняў пад відам «праверкі законнасьці» выдачы дапамог затрымана выдача дапамог вялізарнаму ліку беспрацоўных.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Апрача таго, уводзіцца ў жыцьцё новы закон аб страхаваньні ад беспрацоўя, у рэзультаце якога большасьць беспрацоўных поўнасьцю страчвае права на дапамогу. Газэта вымушана канстатаваць, што «ў апошні час з ліку беспрацоўных, атрымліваючых дапамогі з фонду для беспрацоўных, каля 80 проц. лічацца пазбаўленымі права на дапамогі».



Сьледуючы прыкладу амэрыканскай буржуазіі, якая ніколі не ўстанаўляла і адмаўляецца ўстанавіць страхаваньне па беспрацоўі, урады буржуазных краін рашуча ліквідуюць рэшткі соцыяльнага законадаўства, заваяванага пролетарыятам у пэрыод пасьля сканчэньня сусьветнай вайны. У гэтых умовах у найбольш цяжкім становішчы знаходзіцца працоўная моладзь, якая ў першую чаргу пазбаўляецца работы і дапамог. У Германіі большасьць беспрацоўных, якія не атрымліваюць ніякіх да-

дамог,—юныя пралетары. У буржуазным друку яны атрымалі спэцыяльную клічку—«тротуарныя брацьці». Гэтых «тротуарных брацьцяў» краіна налічвае цяпер больш 400 тыс. Яны вымушаны бадзяцца па дарогах Германіі, шукаючы кавалка хлеба, начаваць на бульварах і вакзалах, каля шыкарных пад'ездаў багачоў, у брудных перапоўненых трушчобах, якія называюцца «прытулкамі для беспрацоўных». Цяпер у многіх гарадох Германіі пры начлежных дамох ствараюцца майстэрні, дзе беспрацоўныя за права начлегу павінны будуць адпрацаваць некалькі гадзін. Маладыя беспрацоўныя, поўныя сіл і энэргіі, з мужнасьцю змагаюцца за права існаваньня. Яны ідуць у компартыю і комсамол, яны дэманструюць на вуліцах гарадоў і на біржах працы з патрабаваньнем работы і хлеба. Але нават сярод іх, поўных сіл і энэргіі, усё больш здараюцца выпадкі самагубстваў. Некаторыя з іх, асу-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

джаныя на пакутлівую сьмерць, ня вытрымаўшы жахаў голаду, канчаюць з сабой.

Глыбокая роспач бязвыходнасьці, страх за будучае ўсё больш апаноўваюць найбольш дальнавідных прадстаўнікоў капіталістычнага сьвету. Яскравым выражэньнем гэтага страху зьяўляецца адозва штотыднёвіка амэрыканскай лібэральнай буржуазіі «Нэйшэн» да прэзыдэнта ПАЗШ Гэрбэрта Гувэра. Гэтая адозва пасьледавала пасьля выгнаньня і расстрэлу ўдзельнікаў паходу амэрыканскіх вэтэранаў вайны ў Вашынгтон. «Нэйшэн» прабуе спыніць нарастаючы гнеў амэрыканскіх рабочых. Ён прапануе дапамагчы рабочым цяпер, пакуль тыя **справай** не дапамогуць самі сабе. «Нэйшэн», вядома, немагчыма западозрыць у комунізьме, але яго лямант гучыць сапраўдным абвінавальным прысудам капіталізму. «Нэйшэн» піша:

**«Ці быць забойству, містэр Гувэр?»**



ДЛЯ ЗАЎВАГ

«Ці быць масаваму забойству, Гэрбэрт Гувэр? Забойству голадам, забойству хваробамі, забойству крушэньнем усіх надзей? Мы пытаемся вас, пан прэзыдэнт, таму што гэты страшны лёс чакае зараз множства людзей. Конгрэс разышоўся на канікулы, асыгнаваўшы толькі 300 млн. доляраў на аказаньне дапамогі беспрацоўным. Ніхто, апрача вас, ня можа склікаць яго раней чым праз 5 месяцаў.

Дзень за днём усё большы лік гарадоў набліжаецца да грані банкроцтва. Дзень за днём затрудненьні паасобных штатаў ПАЗШ становяцца ўсё горш. Самакіраваньне за самакіраваньнем ня бачыць больш ніякіх надзей на збавеньне нявінных ад галоднай сьмерці. Гэта ёсьць забойства, пан прэзыдэнт, халоднакроўнае і непатрэбнае забойства. Горшае, чым калі-б афяры былі пастаўлены да сьцяны і расстрэлены. Кожная сьмерць ад голаду,—

ДЛЯ ЗАЎВАГ

а мужчыны, жанчыны і дзеці, кожны дзень гінуць ад поўнай адсутнасьці харчу і недаяданьня,—зьяўляецца абвінавачваньнем супроць ураду ПАЗШ і, у канчатковым выніку, супроць вас.

Пан прэзыдэнт, ці жывеце вы ў Злучаных Штатах? Ці ведаеце вы, што там адбываецца? Ці ведаеце вы, што цяпер галодная сьмерць зьяўляецца ўжо масавым зьявішчам?

Мы пытаемся пра гэта таксама і таму, што вы заяўлялі, што 300 млн. доляраў, якія будуць даны ў якасьці пазык пасобным штатам, выратуюць ад нястачы гарады. Гэта прымушае нас думаць, што вы ня чытаеце ніводнай газэты і што вашае акружэньне скрывае ад вас факты. Хіба вы ня чулі, што ўлада гораду Сан-Луі і яго добрачынныя ўстановы толькі што адмовілі ў дапамозе 13 тыс. сем'яў, якіх яны ня-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

могуць больш падтрымліваць? Што горад Дэтройт адмовіў у далейшай дапамозе 18 тыс. сем'яў, якім зараз няма куды зьвярнуцца і якія ня маюць надзеі атрымаць адкуль-бы то ні было хоць-бы скарынку хлеба?

Ці чыталі вы, што 800 чалавек зьявіліся мінулым тыднем у законадаўчы сход Індыяны з патрабаваньнем ежы, заявіўшы, што, калі ім не акажуць дапамогу, яны прыдуць другі раз у колькасьці 300 тыс. чалавек? Ці ведаеце вы, што паліцыя г. Сан-Луі ўжо страляла ў натоўп, які патрабаваў хлеба? Ці чыталі вы аб горадзе Клінтоне, у Масачузэтсе, дзе 7 ліпеня «звыш 300 челавек мужчын, жанчын і плачучых дзяцей запоўнілі корыдоры гарадзкога самакіраваньня, просячы есьці», толькі для таго, каб пачуць у адказ, што гарадзкая каса пустая, што горад ня можа пазычыць нівод-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

нага цэнта ні ў аднаго банку і што ён робіць адчайныя спробы прадаўжаць аказаньне дапамогі хоць-бы аднаму з кожных шасьці, якім патрэбна дапамога? Гэта не адзіночны і ня выключны выпадак. Лік гэтых выпадкаў можа быць памножан у сотні разоў. Яны бываюць ва ўсіх кутках краіны. Ці дзіўна, пан прэзыдэнт, што 30 штатаў адразу рушылі на дапамогу?

І як доўга, на ваш погляд, хопіць 300 млн. доляраў перад гэтымі фактамі? Хіба вы ня чыталі, пан прэзыдэнт, аб жудасных выпадках самагубства бацькоў, якія больш ня могуць пракарміць сваіх дзяцей? Хіба вы ня чыталі пра чалавека, які кінуўся з маста ў Нью-Ёрку, таму што ён ня мог вытрымаць думкі аб тым, што ён прыдзе дадому да 7 паміраючых з голаду дзяцей, для якіх ён ня мог атрымаць ніводнага цэнта дапамогі ні ад гораду, ні ад добра-





чынных арганізацый? Няўжо ніхто не расказваў вам аб Антоні Прасоле з Норптэмтону, у Масачузэтсе, аб бацьку 8 дзяцей, які забіў сябе, таму што ён ня меў ніякай надзеі на атрыманьне работы або дапамогі? Або аб дзецях у Оклэндзе, у Каліфорніі, якія прабавалі пражыць, падбіраючы рэшткі ежы на вуліцах, і якія памерлі, атруціўшыся адкідамі? Зноў такі і гэта не адзіночны выпадак. Кожны дзень такія зьвесткі прыходзяць з усіх канцоў краіны.

800 амэрыканцаў, якія прышлі ў законадаўчы орган штату Індыяна, абвясьціўшы, што яны стаяць перад пагрозай «масавага выміраньня ці самагубства», увасабляюць сабою тое, што пагражае ўсёй краіне. Вы хваліліся адсутнасьцю крывяпраліцьцяў і хваляваньняў у часе дэпрэсій. Сьцеражыцеся! Прыслухоўвайцеся да знакаў набліжэньня адчаю. Мы

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ведаем, што рэгулярныя войскі гатовы і што нацыянальная гвардыя спэцыяльна абвучана распраўам з бунтаўшчыкамі. Але іх пушкі не зьяўляюцца выратаваньнем, пан прэзыдэнт. Яны толькі ўзмоцняць жах становішча. Што ўперадзе? Ці быць масаваму забойству, пан прэзыдэнт? Адказ залежыць ад вас».

Гэтая карціна галечы і голаду нарысована рукою амэрыканскіх буржуаузных профэсараў. Гэта—карціна **ўсяго** капіталістычнага сьвету. У Германіі і Польшчы, Бэльгіі і Францыі, Англіі і Японіі—усюды капіталізм асудзіў на голад і галечу мільёны рабочых і іх сем'яў.

## Па абодва бакі граніцы

Рэзкім контрастам анархічнаму, гніючаму сьвету капіталізму зьяўляецца наша краіна соцыялізму,—Савецкі саюз, які шпаркімі тэмпамі індустрыялізуецца і колектывізуецца. Наш Саюз

ня толькі ня ведае беспрацоўя, але адчувае востры недахват рабочых рук. У СССР маладое пакаленьне працоўных, ня знаўшае «прыгожасьцяй» капіталізму, пастаўлена ў такія ўмовы, пры якіх яно можа нормальна разьвівацца і сыстэматычна павышаць сваю кваліфікацыю. У той час, як у капіталістычных краінах маладыя рабочыя зьяўляюцца першымі кандыдатамі ў афяру экономічнаму крызісу, у нас для працоўнай моладзі выданы законы, якія ахоўваюць іх здароўе і працу. У той час, як у капіталістычных краінах перад працоўнай моладзьдзю зачынены дзьверы навуковых установ, у нас—у СССР—маладыя рабочыя, колгасьнікі, усе працоўныя маюць поўную магчымасьць вывучаць усе галіны навукі.

Для прыкладу—Савецкая Беларусь і Заходняя Беларусь.

У Заходняй Беларусі лепшыя прадстаўнікі працоўнай моладзі пасаджаны ў турмы. Там закры-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ваюцца апошнія беларускія школы, там дзейнічаюць пілсудчыкі тыпу Студніцкага, ажыццяўляючыя свой стары лёзунг: «Няма і ня можа быць нейкага беларускага народу і беларускай мовы». У 1920—21 гг., калі Чырвоная армія ў сваім паходзе на Варшаву прайшла беларускія землі, у розных мясцох окупаванай цяпер белапалякамі Заходняй Беларусі, працоўныя стварылі 400 беларускіх пачатковых школ, 7 гімназій і 2 настаўніцкія сэмінарыі. Імкнучыся гвалтоўна апалячыць беларускіх дзяцей і працоўную моладзь, пілсудчыкі ліквідавалі апошнія дзьве прыватныя беларускія гімназіі ў Вільні і Навагрудку, закрываюць апошнія пачатковыя школы, прасьледуюць беларускае настаўніцтва, разграмілі апошнюю культурную беларускую ўстанову—Таварыства беларускай школы, якое змагалася супроць полёнізацыі, за беларускую мову, беларускую школу, беларускую культуру.

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

Для апалячваньня беларускай моладзі пілсудчыкі скарыстоўваюць беларускіх нацыянал-фашыстаў, пры іх дапамозе выпускаюць беларускія кнігі з лацінска-польскім альфабэтам. Беларускі журнал «Шлях моладзі» таксама пераведзен на лацінку.

А ў БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пры актыўным удзеле комсамольскай організацыі, якая налічвае цяпер 108 тыс. членаў саюзу, з году ў год расьце колькасьць беларускіх школь, вячэрніх курсаў, фабзавучаў, тэхнікумаў, унівэрсытэтаў, навукова-дасьледчых установ. Сэсія ЦВК БССР, якая падводзіла ў сярэдзіне ліпеня г.г. вынікі ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі, нацыянальна-культурнага будаўніцтва, адзначыла, што рэспубліка ў асноўным стала краінай суцэльнай пісьменнасьці, створана Беларуская акадэмія навук, Навукова-дасьледчы інстытут імя Леніна і 38 іншых навукова-дасьледчых установ, Беларускі дзяржаўны уні-

вэрсытэт, 32 навуковых вышэйшых установ, 171 сярэдняя школа, 237 спэцыялізаваных школ і 5950 чатырохгодак і сямігодак. У наступным навучальным годзе ўводзіцца ўсеагульнае абавязковае сямігадовае навучаньне, у школы будзе прынята яшчэ 118 тысяч дзяцей.

На III Усерасійскім зьезьдзе РКСМ у кастрычніку 1920 г., Ленін, вызначаючы задачы камсамолу, гаварыў:

> «Старое разбурана, як яго і належала разбурыць... Расчышчана глеба, і на гэтай глебе маладое комуністычнае пакаленьне павінна будаваць комуністычнае грамадзтва».

Гэтае ўказаньне Ільліча комсамол нязьменна, на ўсіх вучастках работы, ажыцьцяўляе. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна працоўная моладзь СССР самаадданна змагаецца за ажыцьцяўленьне пяцігодкі ў чатыры гады, за індустрыялізацыю і колектывізацыю, за соцыялістычную

культуру. І найбольш яркім выражэньнем героічнай работы комсамолу, творчага энтузіязму ўсёй працоўнай моладзі савецкай краіны зьяўляецца барацьба за стварэньне другой вугольна-мэталюргічнай базы на ўсходзе Саюзу—барацьба за Урала-Кузбас. Цяпер магнітагорская доменная печ № 2 «Комсамолка», адна з самых магутных у нашай краіне, ужо дае дзесяткі тысяч тон чыгуну.

Аб такіх шматлікіх героічных прыкладах работы нашай працоўнай моладзі ведае ўся краіна, увесь сьвет. Дзейнічаючы выпрабаванымі мэтодамі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, комсамол з чэсьцю выконвае свой абавязак перад рабочай клясай, ажыцьцяўляе сваю задачу памочніка партыі «ў справе выхаваньня маладога пакаленьня ў духу соцыялізму» (Сталін).

На VII Усесаюзнай конфэрэнцыі ЎсеЛКСМ дэлегат Беларусі расказваў аб тым, як наша мо-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ладзь ахоўвае мірную працу рабочых і сялян Савецкага саюзу. Група расійскіх белагвардзейцаў-тэрарыстаў прабавала перайсьці нашу граніцу. Дэлегат Беларусі расказвае:

«Пагранічнік Андрэй Каробіцын выявіў тэрарыстаў. Яны крычаць яму: «Здавайся, усёроўна заб'ем, — нас многа, ты—адзін». Так, ён быў адзін, пагранічнік Андрэй Каробіцын, і ў яго была адна вінтоўка, а ў іх было восем маўзэраў. Але савецкія пагранічнікі не здаюцца. Замест адказу Каробіцын ускідвае вінтоўку і першай-жа куляй забівае аднаго з тэрарыстаў. Завязваецца няроўны бой паміж чатырма і адным. Некалькі куль пападае Каробіцыну ў жывот і грудзі. Абліваючыся крывёю, ён падае.

Яму-б укрыцца дзе-небудзь, адпаўзьці куды-небудзь за прыгорак; што зараз можа зрабіць ён з тэрарыстамі? Але пагранічнік Каробіцын



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ведаў: за ім стаіць уся Савецкая краіна, гэта яна дала яму ў рукі вінтоўку і паслала на свае граніцы ахоўваць сваю мірную працу. І ён папоўз, папоўз не за прыгорак, а на сустрач тэрорыстам, пакідаючы кусты крывавы сьлед на сваім шляху, але ня спыняючы трапнага агню сваёй вінтоўкі.

Ня вытрымалі тэрорысты жалезнага напору пагранічніка. Падабраўшы забітага, яны пайшлі назад за рубеж».

Гэта—выпадак адзін з многіх.

Толькі так могуць абараняць сваю краіну рабочыя і сяляне СССР, сьвядомыя творцы надыходзячага комуністычнага грамадзтва. І ў сьвятле ўсіх гэтых фактаў няма нічога дзіўнага ў тым, што амэрыканскі буржуазны журналіст Гарры Уорд, які пабываў у Савецкім саюзе, з глыбокай зайздрасьцю гаворыць аб нашым маладым пакаленьні, аб энтузіястах соцыялістычнага будаўніцтва. Артыкул Уорда



ДЛЯ ЗАЎВАГ

называецца «СССР—краіна моладзі». Ён піша:

«Усе амэрыканцы, якія навучаюць гэтых маладых будаўнікоў соцыялізму, згодны ў вызначэньні галоўнай і асноўнай розьніцы паміж імі і самымі сур'ёзнымі з амэрыканскіх студэнтаў. Гэтая розьніца ў тым, **што савецкая моладзь мае вялікую мэту,** як сказаў адзін з савецкіх пэдагогаў,— **яны ведаюць куды, як і чаго яны ідуць.** Не падлягае сумненьню, што ім адкрыў дарогу і паказаў ясны напрамак пяцігадовы плян. Будаўніцтва соцыялізму—ня туманны і расплыўчаты ідэал, але зусім пэўная справа. Савецкая моладзь ведае ня толькі пераходны характар цяперашняга пэрыоду, яна ведае, да чаго ён вядзе. Яна глядзіць на цяперашнія заваёвы матэрыяльнай базы жыцьця як на неабходны ўступ да эпохі новай свабоды для бесьперапыннага разьвіцьця

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ўсіх чалавецкіх здольнасьцяй. Калі вы спытаеце іх, як яны думаюць прымусіць студэнтаў, прывыкшых да сталічнага жыцьця, жыць і працаваць у няскладнай вёсцы, яны спачатку скажуць аб абавязку ў адносінах да таго ладу, які даў ім падтрыманьне і, можа быць, аб партыйнай дысцыпліне, а потым дададуць: мы ідзем да таго, каб зьніштожыць розьніцу паміж горадам і вёскай».

Канчаючы свой артыкул, Уорд гаворыць:

«Адчуваецца, што ў гэтай моладзі жыцьцёвая сіла дасягнула свайго поўнага напружаньня. І з гэтым фактам павінны лічыцца тыя, хто марыць разбурыць тое, што будуе гэтая моладзь».

## У шуканьнях выхаду з крызісу

У апошніх словах Уорда цьвярозае папярэджаньне сьвету капіталістаў, які прабуе за кошт новай вайны і асабліва вайны з

ДЛЯ ЗАЎВАГ

СССР, за кошт зьвяржэньня дыктатуры пролетарыяту выскачыць з мярцьвячых абняцьцяў экономічнага крызісу. Ва ўсіх краінах капіталу пад бязупынныя і марныя гутаркі аб скарачэньні ўзбраеньняў ідзе ліхарадачная гонка ўзбраеньняў. Толькі гэтымі днямі тэлеграф адначасова прынёс паведамленьні з Нью-Ёрку і Бэрліну аб напружанай рабоце ваенных заводаў Японіі, аб закупцы вялізарных запасаў ваенных і хімічных матэрыялаў. Генэралы Японіі, умацаваўшыся ў Манчжурыі, рыхтуюцца да захопу кітайскай провінцыі Жэхэ, каб адкрыць сабе доступ у Монголію і паўночныя землі Кітаю. У ваенных-жа мэтах японскі ўрад організуе масавую колёнізацыю ў Манчжурыю, прычым перасяленцам даюцца ня толькі вінтоўкі, але і кулямёты.

Актыўная ваенная работа ідзе ў Францыі. У гэтым годзе французскія імпэрыялісты пад кіраўніцтвам «соцыялісты» Поля Бон-

кура, цяперашняга ваеннага міністра Францыі, наладзілі такія наземныя і паветраныя ваенныя манэўры, якія перавысілі ўсе да гэтага часу вядомыя ваенныя «ігры». Нядаўна выясьнілася, што францускі генэральны штаб рыхтуе кавалерыю, якая павінна будзе дзейнічаць на польскім баку супроць СССР.

Энэргічна рыхтуецца да вайны і белапанская Польшча. Усім вядома, якія вялізарныя шматлікія заводы сьмертаносчых гармат на францускі капітал пабудаваны ў Польшчы. У сярэдзіне жніўня ў Варшаве адкрыта ваенна-стратэгічная паветраная лінія, якая зьвязвае Польшчу праз Вільню з Літвой і Эстоніяй. Гэты вучастак лініі—прадаўжэньне вялікага паветранага шляху, які зьвязвае Польшчу з Румыніяй, Чэха-Славакіяй і Балканскімі краінамі. У гэты-ж, прыкладна, час у Францыі ў Шэрбурскім порце адбылося ўзьняцьце польскага флага над новым мінанос-

цам «Вужа», пабудаваным у Гауры па заказу польскага ўраду. У порце Гдыня пачынаецца будаўніцтва магутнага маяка, які мае ваеннае назначэньне.

Сваясаблівым конвэерам цягнуцца ў Польшчы ўсякія ваенныя зьлёты, сходы і зьезды. За апошнія месяцы адбыўся зьезд офіцэраў запасу ў Гдыні, зьезд стралковага саюзу ў Вільні, зьезд морскай і колёніяльнай лігі ў Львове, сход легіонэраў і зьезд стралковага саюзу ў Варшаве. У сярэдзіне жніўня адбыўся шумны зьезд легіонэраў у Гдыні, усьлед за гэтым ваенная дэмонстрацыя расійскіх белагвардзейцаў у Варшаве. Мінула менш месяца з моманту падпісаньня прадстаўніком польскага ўраду дагавору з СССР аб ненападзе, але польская фашысцкая прэса ўжо пасьпела разгарнуць шалёную антысавецкую кампанію поўную самага наглага паклёпу.



ДЛЯ ЗАУВАГ

ДЛЯ ЗАЎВА

Вялікую ваенную работу вядзе польская буржуазія сярод сынкоў дробнай буржуазіі, чыноўнікаў, кулакоў. Дзякуючы ўмела пастаўленай агітацыі, шовіністычным лёзунгам і прыгожай форме абмундыраваньня, буржуазіі ўдаецца ўцягнуць моладзь, а часткова і паасобныя групы рабочай моладзі ў ваенна-фашысцкія саюзы. Польшча мае мілітарыстычны саюз «Пшыспособеньня войсковэго», які налічвае 200 тыс. чалавек. Гэтая организацыя офіцыйна лічыцца грамадзянскай, але на справе яна падначалена ваеннаму міністру. Снабжэньне саюзу ідзе за кошт фондаў ваеннага міністэрства. Саюз «Пшыспособеньне войсковэго» будуецца па тым-жа мэтодзе, як і рэгулярныя армейскія часьці—па аддзяленьнях, узводах, ротах. Саюз мае ў сваім распараджэньні 80 тыс. вінтовак, уласныя склады абмундыраваньня, знараджэньня і т. д. У часе сьвята пазавайсковай

падрыхтоўкі гэты фашысцкі саюз выставіў 6 пяхотных палкоў і некалькі батарэй. Саюз прызначан для барацьбы з рэволюцыйным рухам, для пастаўкі штрэйкбрэхераў, але ў момант вайны ён можа быць ператворан у рэгулярную дзеючую часьць. Польшча мае такія ваенныя арганізацыі, як «Стшэлец», жаночую арганізацыю «Стшэльца», арганізацыю хімічнага і паветранага назначэньня.

Буйную ваенна-фашысцкую арганізацыю мае нацыянал-сацыялістычная партыя Германіі. Штурмавікі—члены гэтай арганізацыі—па заданьні свайго фашысцкага кіраўніцтва на працягу раду месяцаў праводзяць шматлікія крывавыя напады ня толькі на комуністычных, але і соцыял-дэмократычных рабочых. Провоцыруюць іх на сутычкі. Нацыянал-соцыялістычныя галаварэзы, якія знаходзяцца на ўтрыманьні прамысловых магнатаў, ужо налічваюць у сваім чор-

ным сьпісе сотні забітых і тысячы раненых рабочых.

Тое, што адбываецца цяпер у Германіі, Польшчы ды інш. краінах, цалкам пацьвярджае словы т. Сталіна, сказаныя ім на XVI зьезьдзе нашай партыі, што

«буржуазія будзе шукаць выхаду са становішча ў далейшай фашызацыі ў галіне ўнутранай політыкі, скарыстоўваючы для гэтага ўсе рэакцыйныя сілы, у тым ліку і соцыялдэмократыю... што буржуазія будзе шукаць выхаду ў новай імпэрыялістычнай вайне і інтэрвэнцыі ў галіне зьнешняй політыкі».

### Міжнародны комсамол—на перадавых позыцыях абароны СССР

Далей т. Сталін на XVI зьезьдзе партыі гаворыць:

«Пролетарыят, змагаючыся з капіталістычнай эксплёатацыяй і ваеннай небясьпекай, будзе шукаць выхаду ў рэволюцыі».

ДЛЯ ЗАЎВАГ

І гэтыя словы т. Сталіна ўсім ходам гістарычных падзей пацьвердзіліся.

Ва ўсім сьвеце, поплеч з усім пролетарыятам пад сьцягамі Комінтэрну і КІМ'у як неразрыўная частка пролетарыяту, змагаецца комсамол за экономічныя і політычныя інтарэсы рабочай клясы. Ва ўсіх часьцінах зямнага шару—у Кітаі і Германіі, у Японіі і Польшчы, у Індо-Кітаі і Францыі, у Індыі, Румыніі ды іншых краінах комсамол і ідучыя за ім маладыя рабочыя стаяць на барыкадах клясавай барацьбы, на перадавых позыцыях абароны Савецкага саюзу ад ваеннага нападу.

Разам з кітайскай компартыяй комсамол Кітаю змагаўся і змагаецца за разьвіцьцё нацыянальна-рэволюцыйнай вайны супроць японскага імпэрыялізму ды іншых імпэрыялістаў. Кітайскі комсамол у першыя-ж дні пасьля выступленьня японскіх вой-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

скаў арганізаваў рад забастовак і протэстаў рабочай моладзі, ён адыграў буйную ролю ў шанхайскай абароне—прыцягваў рабочую моладзь і рабочыя дружыны, праводзіў масавую работу сярод салдат 19-й Кантонскай арміі, якая рашуча супраціўлялася японскім захопнікам. Комсамол дапамагаў кітайскай компартыі організоўваць беднату на дапамогу 19-й арміі, разгортваў сетку лазарэтаў і харчавальных пунктаў для беднаты, якая ўцякла з раёну ваенных дзеяньняў. Комсамол Кітаю адважна змагаўся і змагаецца за ўмацаваньне Савецкага Кітаю, за перамогу Кітайскай Чырвонай арміі. Пад кіраўніцтвам компартыі, пры непасрэдным удзеле комсамолу Чырвоная армія кітайскіх рабочых і сялян чацьверты раз пасьпяхова адбіла напад Чан-Кай-шы, які мае неабмежаванае падтрыманьне імпэрыялістычных дзяржаў у задушэньні савецкай улады ў Кітаі.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Героічную барацьбу на абарону Кітаю і СССР вядуць японская компартыя і комсамол. Добра вядомы факты рэволюцыйных выступленьняў у японскай арміі, organізаваныя компартыяй. Аб тэй барацьбе, якую праводзяць далей рэволюцыйныя масы Японіі, сьведчаць і арышты, якія нядаўна былі зроблены ў розных ваенных і навучальных установах Японіі.

Ажыцьцяўляючы праграму КІМ'у, усвоіўшы вучэньне Леніна аб тым, што «бойкот вайны зьяўляецца дурной фразай», «бо адмаўленьне ад вайсковай службы аслабаняе арміі якраз ад рэволюцыйных элемэнтаў» (з праграмы Комуністычнага інтэрнацыяналу), комсамольцы ідуць у армію і там растлумачваюць працоўным мэты імпэрыялістычных урадаў, выкрываюць падрыхтоўку вайны супроць СССР. Вось чаму адбываюцца шматлікія арышты комуністаў і комсамольцаў у японскай, французскай, польскай, румынскай ды інш. ар-

міях імпэрыялістаў. Вось чаму з багаславеньня соцыял-фашыстаў францускі буржуазны суд, помнячы гістарычнае паўстаньне маракоў флёту, кінутага супроць СССР, з усёй лютасьцю накідаецца на салдатаў і ваенных маракоў, западазроных у комунізьме. Вось чаму нядаўна быў схоплен і засуджан на тры гады турэмнага зьняволеньня сакратар ЦК комсамолу Францыі т. Раймон Гюйо, які ў цэнтральным органе комсамолу «Авангард» правёў антымілітарысцкую кампанію.

У Заходняй Беларусі польская буржуазія, расчышчаючы глебу для ваеннага выступленьня; арыштоўваючы рэволюцыйных рабочых і сялян, адначасова прабуе ўцягнуць у свае ваенныя організацыі беларускую сялянскую моладзь. Комсамол Заходняй Беларусі энэргічна выкрывае мэты ўсіх «спортыўных» організацый, як «Зьвёнзку млодзежы вейскей», «Пшыспособеня войсковэго», «Стшэльца» ды інш.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

У сваёй адозьве, прысьвечанай міжнароднаму антываеннаму дню гэтага году, ЦК комсамолу Заходняй Беларусі пісаў:

... «Урад з селяніна зьдзірае астатні грош за падаткі, каб былі грошы на закупку гарматаў, танкаў. Сялян і сялянскую моладзь гоняць на прыгонныя шарваркі будаваць дарогі і масты дзеля вайны супроць СССР. У рабочых адбіраюць заробкі, беспрацоўных пазбаўляюць дапамогі, моладзь выкідаюць з працы, каб новыя мільёны выдаваць на ваенную падрыхтоўку.

Гэтую падрыхтоўку вайны ўрад Пілсудзкага праводзіць з дапамогаю ўсіх буржуазных соцыял і нацыянал-фашысцкіх партый, ППС і маладзёжных соцыял - фашысцкіх арганізацый...

Толькі рабочыя сяляне і з імі ўся працоўная моладзь сваёй масавай барацьбой з вайной, пад кіраўніцтвам компартыі і

комсамолу могуць перашкодзіць Пілсудзкаму зьдзейніць свае пляны. Па прыкладу рабочых, тэкстыльшчыкаў Беластоку, рабочых лесазаводаў Гойнаўкі пашыраецца забастовачная барацьба супроць зьніжэньня платы, супроць уціску і прыстараўскага дэкрэту, за дапамогу беспрацоўным. Масава змагайцеся супроць палявых судоў. Па прыкладу сялян Берасьцейшчыны і Навагрудчыны масаю выходзьце на барацьбу з падаткамі, шарваркамі, за конфіскацыю хлеба, сьвірнаў, абшарнікаў і ўраду! Не дадзім акупаваную Заходнюю Беларусьператварыць у ваенны лягер і нашу зямлю зноў перарыць акопамі...

... Той, хто чакае вайны і актыўна не змагаецца супроць яе, той, хто думае, што з вайной прыдзе яго вызваленьне ад окупантаў—той гэтым самым дае фашысцкаму ўраду лішнюю магчымасьць душыць вашу вызваленчую барацьбу і добра падрыхтоўвацца да вайны.

Лепшыя элемэнты польскай інтэлігенцыі, усе рэволюцыйныя элемэнты моладзі Польшчы бачаць, куды вядзе політыка пілсудчыкаў. Вось чаму шматлікія організацыі краіны жыва адгукнуліся на заклік Анры Барбюса і Ромэн Роляна аб скліку міжнароднага антываеннага конгрэсу. Паводле адрывачных паведамленьняў, якія паступаюць з Польшчы, штодзённа далучаюцца да ініцыятывы організатараў конгрэсу як адзінкавыя асобы, так і грамадзкія організацыі, прафсаюзы, саюзы моладзі і т. д. У Варшаве ў дні апошняй дэкады жніўня стварылася група, якая аб'ядноўвае маладых літаратараў, студэнтаў ды іншых; гэтая група зьвярнулася з адкрытым пісьмом да рабочай моладзі, заклікаючы яе садзейнічаць скліку конгрэсу.

Выкрываючы падпальшчыкаў новай вайны і агентуру буржуазіі—соцыял-фашыстаў, рэволюцыйная моладзь пад кіраўніцтвам компартый вядзе нясупын-



## ДЛЯ ЗАЎВАГ

ную барацьбу за абарону штодзённых патрэб рабочай клясы. У Польшчы, дзе забастовачная хваля ўсё больш і больш уздымаецца, дзе экономічныя баі ўсё больш і больш перарастаюць у політычныя выступленьні супроць рэжыму тэрору фашыстаў, комсамол ідзе ў першых радох барацьбітоў. Нядаўна закончылася дзесяцітыднёвая забастоўка тэкстыльшчыкаў у Беластоку, да якой далучыліся рабочыя вакольных тэкстыльных прадпрыемстваў. Маладыя рабочыя ў часе гэтай забастоўкі выклікалі такую нянавісьць соцыялфашысцкіх важакоў саюзу тэкстыльшчыкаў, што маладых рабочых ня прымаюць у рады саюзу. Буйную ролю комсамол і ідучыя за ім рабочыя адыгралі ва ўсіх забастоўках, якія адбываліся ў Заходняй Беларусі. У забастоўцы швэйных рабочых у Вільні, у забастоўцы лесапільных рабочых у Варапаеве, пры пасадцы лесу ў Глыбоцкім раёне, на пабудове чыгуначнай лініі Друя-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Варапаева моладзь ня толькі актыўна ўдзельнічала ў забастоўках, але часта была іх ініцыятарам.

Наколькі вострыя формы набыла барацьба польскіх рабочых супроць фашызму, сьведчыць наступнае паведамленьне з Варшавы, апублікаванае ў канцы ліпеня ў «Правде»:

«Буржуазная газэта «Нащ Пшэглёнд» ад 21 ліпеня апісвае вельмі цікавыя падрабязнасьці аб барыкадных баёх у Пабіянцах пад Лодзьдзю.

Барацьба у Пабіянцах, як вядома, разгарнулася ў сувязі са спробай зволіць 1200 рабочых-тэкстыльшчыкаў фабрыкі «Крушэ-Эндэр», на якую (спробу) рабочыя адказалі абвяшчэньнем так званай «італьянскай забастоўкі» і заняцьцем фабрыкі. На трэці дзень па горадзе разьнеслася чутка, што адна з работніц фабрыкі «Крушэ-Эндэр» была зьбіта ў канторы фабрыкі. «Гэтая вестка

мела дзеяньне іскры, трапіўшай у бочку з порахам»,— піша «Наш Пшэглёнд». На працягу паўгадзіны каля варот фабрыкі сабралася 3 тыс. рабочых, якія штурмавалі ўваход, імкнучыся прарвацца на фабрыку. Калі паліцэйскія атакавалі рабочых, натоўп закідаў іх градам каменьняў і перад варотамі фабрыкі з хуткасьцю маланкі пачала вырастаць барыкада. Рабочыя, заняўшыя фабрыку, прышлі на дапамогу рабочым на вуліцы. Тады паліцыя пусьціла ў ход сьлязатачывыя бомбы. Адцясьніўшы рабочых ад заводу, паліцыя пачала ачышчаць фабрыку ад бастуючых. Паміж рабочымі і паліцыяй адбылося сапраўднае сражэньне. Рабочыя, узброеныя каменьнямі, палкамі, жалезнымі ломамі, кінуліся на паліцэйскіх, якія дзейнічалі з дапамогаю гумовых дубінак і сьлязатачывых газаў. Рабочыя пусьцілі ў ход пажарныя помпы і палівалі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

паліцэйскіх вадой. Некалькі паліцэйскіх, у тым ліку і комісар паліцыі, былі абліты салянай кіслатой. Паліцыя вымушана была адступіць.

Толькі прыбыўшым з Лодзі ўзмоцненым нарадам паліцыі ўдалося прарвацца на фабрыку і ачысьціць яе ад рабочых».

## СІМ—атрад лазутчыкаў буржуазіі

У програме КІМ'у запісана: «На шляху вызваленьня рабочай моладзі соцыял - дэмократычныя партыі зьяўляюцца перашкодай, якая павінна быць зьнішчана». Кіруючы барацьбой з тэрорам фашыстаў, адбіваючы наступленьне прадпрымальнікаў на зарплату, комуністычнаму авангарду адначасова прыходзіцца весьці нясупынную барацьбу з агентурай буржуазіі— соцыял - фашысцкімі лідэрамі II Інтэрнацыяналу і з соцыял-фашысцкім інтэрнацыяналам моладзі (СІМ), які знаходзіцца пад яго кіраўніцтвам.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Гэтыя організацыі, нагла прэтэндуючыя на ролю абаронцаў інтарэсаў рабочай клясы, пастаянна ва ўсіх пытаньнях экономічнай і політычнай барацьбы выступаюць як верныя псы капіталізму. У моманты, калі разгараюцца забастоўкі, социял-фашысты выступаюць сумесна з прадпрымальнікамі і поліцыяй для прыдушэньня актыўнасьці рабочых. Гэта яны, социял-фашысты, спэкулююючы на прадстаўніцтве ад імя рабочых, дапамагаюць заводчыкам і фабрыкантам угаварваць рабочых згадзіцца на зьніжэньне зарплаты; гэта яны, прыкрываючыся лёзунгам «меншага зла», расчышчаюць дарогу фашыстам для захопу ўлады, для ўстанаўленьня ваенна-фашысцкага рэжыму; гэта яны, прыкрываючыся пацыфісцкімі размовамі аб разбурэньні і «вечным міры», на справе дапамагаюць буржуазіі рыхтаваць узброены напад на СССР.

У барацьбе за адзіны фронт усёй рабочай клясы Комінтэрн і



ДЛЯ ЗАЎВАГ

КІМ сыстэматычна, на штодзенных прыкладах выкрываюць здрадніцкую тактыку соцыялфашыстаў і іх «соцыялістычных» саюзаў моладзі. Важакі з II Інтэрнацыяналу і СІМ'у, іх подленькія газэты, змагаючыся супроць рэволюцыйнага руху ў сваіх краінах і супроць Савецкага саюзу, ня спыняюцца ні перад якой хлусьнёю, абы толькі ўтрымаць пролетарыят ад пераходу ў лягер комунізму. Разам з буржуазным друкам соцыялдэмократычныя газэты крычалі аб правале пяцігодкі, разам з буржуазнымі газэтамі яны выступалі на абарону кулакоў, разам з буржуазнымі газэтамі яны крычаць аб развале савецкай гаспадаркі, аб «голадзе ў Расіі» і да т. п.

Іменна ў тых-жа мэтах ашуканства рабочай моладзі СІМ і яго сэкцыі нагла называюць сябе «Моладзьдзю Лібкнэхта». Праўда, Карл Лібкнэхт як і Ленін усё сваё жыцьцё змагаўся за выкоўваньне рэволюцыйнага

саюзу моладзі; праўда, Карл Лібкнэхт быў правадыром пролетарскай рэволюцыі ў Германіі і быў забіт па загаду соцыял-дэмократычных правадыроў. Але Лібкнэхт, адважны пролетарскі барацьбіт, правадыр германскіх спартакаўцаў, загінуў верным рэволюцыйным інтэрнацыяналістам. І **нашага** Лібкнэхта слугі капіталу, замучыўшы яго (Лібкнэхта), маюць сьмеласьць называць сваім! Толькі КІМ і яго сэкцыі змагаюцца за справу, за якую жыў, змагаўся і загінуў Лібкнэхт.

У жорсткіх клясавых баёх з капіталізмам дарослыя рабочыя і юныя пролетары, якія яшчэ ідуць за нацыянал-соцыялістамі і соцыял-фашысцкімі лідэрамі, пераконваюцца ў праваце політычнай лініі Комінтэрну і КІМ'у. І эта з відавочнасьцю паказалі выбары ў Германіі, на якіх наша брацкая компартыя атрымала рашучую перамогу, сабраўшы **5 млн. 3 тыс.** галасоў, адарваўшы ў соцыял-фашыстаў каля мільё-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

на рабочых галасоў. Гэта з відавочнасьцю паказала героічная стачка бэльгійскіх гарнякоў пад кіраўніцтвам нашай яшчэ невялікай брацкай бэльгійскай компартыі і комсамолу. Гэтая стачка ўжо цягнецца каля ста дзён. ня гледзячы на здрадніцтва партыі Вандэрвэльдэ.

Гіганцкія посьпехі СССР, голад і галеча рабочых і сялян у краінах капіталізму штурхаюць мільёны маладых рабочых пад штандары Комінтэрну. Хіба не характэрным зьяўляецца заява, зробленая маладым рабочым на сходзе актыву соцыял-дэмократычнай моладзі ў Аўстрыі па дакладу аднаго з лідэраў II Інтэрнацыяналу Отто Бауэра аб нашай пяцігодцы. Малады рабочы заявіў:

«Бальшавікі ідуць правільным шляхам. Калі-б расійскія рабочыя сьледвалі за меншавікамі, то ўжо сёньня ў Расіі панаваў-бы фашызм... Мы па-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

вінны абараняць Савецкі саюз і захапляцца вялізарным соцыялістычным будаўніцтвам».

## Задачы працоўнай моладзі СССР

«Трэба, каб дух інтэрнацыяналізму заўсёды лунаў над комсамолам. Трэба, каб нашу рэволюцыю комсамольцы навучыліся разглядаць не як самамэту, а як сродак і падспор'е для перамогі пролетарскай рэволюцыі ва ўсіх краінах» **(Сталін).**

Пад знакам інтэрнацыяналізму, за перамогу пролетарскай рэволюцыі ва ўсім сьвеце вядзе сваю работу комсамол Савецкага саюзу. Вось чаму на яго мюдаўскіх сьцягах і ў гэтым годзе будуць лёзунгі ня толькі за далейшае наступленьне на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва, але, і за абарону міжнароднага пролетарыяту, за сусьветны Кастрычнік.

Якія задачы стаяць перад комсамолам нашай краіны? У най-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

больш кароткай форме гэтыя задачы сформуляваны т. Косаравым у яго дакладзе на VII Усесаюзнай канфэрэнцыі ЎсеЛКСМ. Тав. Косарaў сказаў:

«Лёзунгам для нашай работы зьяўляецца: **жыць культурна, працаваць продукцыйна. Барацьба за нормальную работу бяз рыўкоў, без «партызаншчыны» ў кепскім сэнсе слова,**—вось чаго ў асноўным мы павінны дасягнуць у нашым ударніцтве, у нашым соцыялістычным спаборніцтве».

Яшчэ больш згрупаваўшыся вакол нашай партыі, ператвараючы ў жыцьцё лёзунг «жыць культурна, працаваць продукцыйна», на аснове штодзённага ажыцьцяўленьня шасьці ўмоў т. Сталіна комсамол як і ўся рабочая кляса, усе працоўныя нашай краіны, павінен выканаць наступныя баявыя задачы:

Змагацца за пасьпяховае выкананьне прамысловых плянаў,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

за пасьпяховае завяршэньне пяцігодкі ў чатыры гады.

Падрыхтавацца да разгортваньня работ другой пяцігодкі пабудаваньня бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва ў СССР.

Усямерна змагацца за тое, каб у тэрмін і бяз страт убраць ураджай.

Растлумачваць масам колгасьнікаў і сялян-аднаасобнікаў і на аснове гэтага весьці актыўную работу за сваячасовае выкананьне плянаў дзяржаўных збожжазагатовак.

Энэргічна разьвіваць колгасны гандаль.

Разгортваць выраб прадметаў шырспажыву. У найкарацейшы тэрмін давесьці да ведама ўсіх працоўных закон ураду СССР аб ахове грамадзкай (соцыялістычнай) маемасьці.

Уважліва працаваць над палепшаньнем справы рабочага снабжэньня.

Змагацца за сканчэньне падпіскі на пазыку «4-ты завярша-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ючы», за афармленьне падпіскі, за сваячасовае паступлененьне ўзносаў па пазыцы, за рэалізацыю фінпляну III кварталу.

З неаслабнай энэргіяй змагацца за аўладаньне вышынямі тэхнікі, за аўладаньне ведамі, за культурнага рабочага.

Разам з гэтым, нясупынна, кожны дзень, кожную гадзіну мацаваць абароназдольнасьць нашай краіны, мацаваць сувязь з Чырвонай арміяй—апорай мірнай працы рабочых, колгасьнікаў, усіх працоўных нашай краіны.

Побач з агульнымі задачамі, якія высунуты перад комсамолам як памочнікам партыі, перад ЛКСМБ стаяць асобныя задачы ў галіне ажыцьцяўленьня плянаў рашаючых галін народнай гаспадаркі Беларусі. Сакратар ЦК КП(б)Б т. Жаброўскі, выступаючы на V пленуме ЦК ЛКСМБ, наступным чынам сформуляваў гэтыя задачы: у галіне сельскай гаспадаркі—барацьба за высокі ўраджай, за высокую тавар-

насьць, пераход ад агромінімуму да разгорнутай праграмы агрозоотэхнікі, павялічэньне засеваў тэхнічных культур—ільну і канапель; у галіне прамысловасьці – усямернае разьвіцьцё торфяной і дрэваапрацоўчай прамысловасьці, прамысловасьці будматэрыялаў, лёгкай прамысловасьці чыгуначнага і дарожнага транспорту.

«Зразумела,—гаварыў т. Жаброўскі, — швэйная, гарбарная прамысловасьць, прамысловасьць сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва павінны займаць значнае месца ў разьвіцьці беларускай прамысловасьці, але цэнтральным зьвяном на даным адрэзку зьяўляюцца торф, дрэваапрацоўка, лесахімія, ільнаапрацоўчая і харчовая прамысловасьць. За гэтыя галіны партыя цяпер змагаецца і комсамол павінен дапамагчы партыі выцягнуць гэтыя адсталыя галіны беларускай прамысловасьці».

За далейшае развіцьцё продукцыйных сіл краіны Саветаў, за далейшае палепшаньне матэрыяльна-бытавых умоў рабочай клясы, усіх працоўных, за соцыялістычную культуру, гатовы ў любы момант стаць на абарону граніц Савецкага саюзу, на дапамогу рэволюцыі на Захадзе і Ўсходзе змагаўся і будзе змагацца вядучы атрад КІМ'у—савецкі комсамол. Супроць зьніжэньня жабрацкай зарплаты, супроць скарачэньня і ліквідацыі дапамог беспрацоўным, супроць політычнага бяспраўя пролетарскай моладзі, за хлеб, за работу, за свабоду, за **савецкую ўладу**—змагаўся і будзе змагацца героічны комсамол ва ўсіх краінах.

Гэта—адзіны правільны ленінскі шлях барацьбы за сусьветны Кастрычнік, за перамогу соцыялізму ва ўсім сьвеце.

---

ДЛЯ ЗАЎВАГ

